Уладзімір Ліпскі

# Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска

казка



малюнкі Ігара Ліпскага

# Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска

## Казка

пра школьную Пяцёрку, якая ўцякла з сшытка і трапіла да Змея-Хапуна;

пра незвычайнае падарожжа ў горад Казак і горад Лічбаў;

пра смелага і кемлівага хлопчыка Янку і пра яго сяброў – Шэрую Мышку і ката Буль-Буля;

пра смешную-пацешную Кляксу-Ваксу, якая выратавала Пяцёрку.



Прыдумаў У. Ліпскі
Маляваў І. Ліпскі

# 1 РАЗДЗЕЛ

## На свет з'яўляецца Клякса-Вакса

















Ах ты, абібочына рагатая, хопіць спаць у маім сшытку!
Вой-вой!.. Хі-хі-хі!.. Што ж ты робіш?..
Не вы-ы-спа-лася, э-э-эх!..
Ты хто?
Я-я?.. Янка...
А я — Клякса-Вакса. Не хвалюйся, Янка. Я табе зараз усё растлумачу. Дык слухай. Наша кляксінае племя злое і каварнае. Яно прыносіць людзям бяду.
Я ведаю, колькі ты праліў слёз, калі праз мяне атрымаў двойку. Калі праз мяне твае тата і ма-ма абзывалі цябе мурзам... Я ўсё ведаю...
Не плач.
О, мой збавіцель! Мне сорамна, што столькі гора прынесла я табе. А ты пазбавіў мяне спрадвечнае цемры. Я не хачу вяртацца туды.
Дык заставайся ў нас.
Ох, Янка! Як жа мне жыць сярод людзей, якім я прыносіла столькі непрыемнасцей?
Але ж ты болей не будзеш, праўда?
О, мой збавіцель, што мне зрабіць для цябе? Падкажы, у чым збавенне ад злоснага племя?







## 2 РАЗДЗЕЛ

**КЛЯКСА-ВАКСА І ЯНКА СУСТРАКАЮЦЦА З ШЭРАЙ МЫШКАЙ І ЯЕ КАТОМ**










Доўга ці мала ляцелі...
Што там за хатка? Можа, якраз у ёй жыве Пяцёрка?


Хто ў хатцы жыве?


Я – Шэрая Мышка, уладарка Бруснічнай паляны, любімая праўнучка маёй знакамітай прапрабабкі Мышкі – Нарушкі. А вы хто будзеце?
Я – Янка з Дзіўнагорска.
А я – Клякса-Вакса.


Гм... З чалавекам даводзілася сустракацца. А вось жывую Кляксу-Ваксу бачу ўпершыню.
Хр-р-р...
Яна дапамагае мне...


Не палохайцеся. Гэта спіць кот Буль-Буль.
Кот?! Каты ж любяць мышэй есці.


Хі-хі-хі!..Гэта дзікія каты драпежныя. А наш Буль-Буль – свойскі кот. Ён любіць есці рыбу, нават цукеркі. Прыйшоў да мяне з горада. Яго ранейшыя гаспадары выгналі. А я прыняла, накарміла. Ён і застаўся. Працуе ў мяне вартаўніком.


Тым часам прачнуўся Буль-Буль.
Хто такія? Чаго завіталі да нас? Куды ідзяце?


Разумееце, мы шукаем Пяцёрку.
А яна смачная?


Не, яе не ядуць. Яе выдаюць школьнікам, хто добра піша, чытае, рашае задачкі.
Мя-я-яў. Ніколі не бачыў Пяцёрку.
І я не бачыла.


А чаму ж яна ўцякла ад цябе?
Я сам вінаваты. Запляміў сшытак. А там якраз Пяцёрка жыла. Яна чысцёха. Не вытрымала і збегла.


Гэта я вінавата. Таму і хачу дапамагчы Янку.


А дзе ж вы шукаць будзеце сваю Пяцёрку?
Усюды!
Увесь свет абыдзем.


Увесь свет! Гаспадыня, прабач старому бадзягу, але хочацца і мне пабачыць свет, хоць раз зірнуць на тую Пяцёрку.
І мне надакучыла сядзець усё жыццё ў адной хатцы. Можа, вы і нас узялі б з сабою?


Я не супраць!

# 3 РАЗДЗЕЛ

**Падарожнікі робяць цікавыя адкрыцці і знаёмяцца з Залатым Яйкам**



















Глядзі, Янка, у небе тройкі ляцяць!



А вунь дзядзька сядзіць на перакуленай чацвёрцы!



А вось нулік коціцца!



Я – Залатое Яйка. Дапамажыце мне вярнуцца дадому. Я жыву ў горадзе Казак, у Дзеда і Бабы. Але хіба гэта жыццё?.. Дзед з Бабаю схавалі мяне ў куфэрак. Там цёмна – цёмна. Мне няма з кім пагуляць, пагутарыць.



А праз што Дзед і Баба на цябе так зазлавалі?
Яны не злосныя. Гэта ж у іх было некалі Простае Яйка. І вось аднойчы бегла Мышка, хвосцікам махнула, Яйка ўпала і разбілася. Дык яны і за мяне баяцца...



Ніхто з нашага мышынага роду не здатны на такое. Гэта – пацук!



А як жа ты ўцякло ад Дзеда і Бабы?
Выпадкова. Яны забыліся замкнуць куфэрак. А мне так хацелася пагуляць на вуліцы, пабачыць свету. Вось я і выкацілася...
Ну, і што ж ты пабачыла?
Ды не паспела я нават выкаціцца з дому, аж чую: за кустамі шэпчуцца Крумкач з Крумкачыхай: „От зловім Залатое Яйка, раздзяўбаем і вып'ем". А я ў другі бок пакацілася. І вас сустрэла. Бачу, вы добрыя, таму і прашу ў вас паратунку.






## 4 РАЗДЗЕЛ

**Янка, Клякса-Вакса, Шэрая Мышка і кот Буль-Буль у горадзе Казак**

Кукарэку!

За гэтай брамай пачынаецца горад Казак.




Іх спыніў Змей Гарынавіч.





















Не варта ў Гарынавіча цікавіцца пра Пяцёрку. Наўрад ці ведае пра яе стары.


Сябры рушылі далей.


О, тут жыве надзвычай добры чалавек.
Тут працуе доктар Айбаліт


Хто ў вас хворы?
Мы здаровыя. Мы шукаем Пяцёрку. Можа, яна заходзіла да вас. Ці можа, вы што-небудзь чулі пра яе?


На жаль, сябры мае, не магу вам нічым дапамагчы. На вуліцы Нязнайкі жыве Андрэй за ўсіх мудрэй, мо ён ведае?


Але і Андрэй за ўсіх мудрэй развёў рукамі.
Не бачыў... Не чуў... Не ведаю...


Пайшлі далей.
Э-эге-ге-ге... Э-ге-ге-ге-ге...


О, шаноўныя, выратуйце мяне! Я добры, разумны і зусім не злосны...
Мы ведаем, які ты добры, Карабас-Барабас. Памятаеш, як ты лупцаваў Бураціна, як ганяўся за ім?

Э-ге-ге-ге... Я болей не буду-у...
Не верце яму!

Ага, дык ты і мне, удовіну сыну, хлусіў, што больш не крыўдзіш Бураціна, а сам схаваў яго ў кішэню. Хадзем у заапарк! Пасядзіш у клетцы!

Скажы, Бураціна, ты бываеш у розных краінах. Ці не сустракаў дзе-небудзь маю Пяцёрку?
Не, не бачыў. Але я дакладна ведаю, што недзе ёсць горад Лічбаў. Трэба адшукаць яго, і там вы сустрэнеце сваю Пяцёрку.

А дзе ж шукаць той горад Лічбаў?
Хто яго ведае. Мяркую, што трэба ісці туды, адкуль прыходзіць Сонца.

Мае сябры, у цудоўным горадзе мы зараз, але ж нам трэба шукаць горад Лічбаў!

Мы гатовы!

# 5 РАЗДЗЕЛ

## Незвычайныя падарожнікі шукаюць горад Лічбаў



















Бяжыць зайчык.
Скажы, Зай, ці не ведаеш, як трапіць у горад Лічбаў?


Хто яго ведае. Можа, Воўк бываў там? Ён гоніцца за мной. Затрымайце яго, пагаварыце. Я мне ўцякаць трэба. Шчаслівай дарогі вам!


Дзе заяц?!
Не бачылі. Скажыце, Воўча, вы шмат дзе бегаеце, можа, ведаеце, дзе знаходзіцца горад Лічбаў?


Горад?! Па гарадах не швэндаюся. Там няма ласункаў для мяне. Ліса напэўна ведае. Яна, шэльма, і хітрэйшая, і разумнейшая за ўсіх нас. Яе шукайце, а мне трэба Зайца даганяць.


Бяжыць рыжая.
Мудрая пані Ліса, падкажыце нам, якой дарогай ісці ў горад Лічбаў?
Па асфальце я не люблю хадзіць, таму і дарогу паказаць не магу. Ведаю толькі, што адзін указальнік павінен стаяць злева, другі — справа, а трэці — пасярэдзіне.


От, праўда мудрая. Так расказала, што нічога не зразумець.
Яна сквапная і хцівая. Разбурае нашы норкі.
Колькі ворагаў на свеце!


З надыходам ночы прыляцеў Светлячок.
Я правяду вас у горад Лічбаў. Толькі за гэта адгадайце маю загадку: чаму я ноччу не сплю.







## 6 РАЗДЗЕЛ

## Цар Трыльён прымае Янку і яго сяброў

Калі прачнулася Сонца падарожнікі ўбачылі горад Лічбаў.


Хутка сябры сустрэлі першых жыхароў горада.


З чаго табе так весела, Плюс?
Мне добранька жывецца. Там, дзе я, заўсёды прыбытак. Не тое што мой сусед — скупеча Мінус.


У-у-у-у... Гора мне з такім суседам...




Дарэмна спрачаецеся. Вы абодва вельмі карысныя знакі.
І Мінус карысны?


Эх ты, каб знайшоўся які добры Мінус і адняў у нашага Янкі Двойку, ведаеш, якой шчаслівай была б яго мама?
Я адыму.


Э-э, паважаны, раскажыце пра свой горад.
Нашым горадам кіруе цар Трыльён. У горадзе прапісаны ўсе лічбы.


А вы чаму ў гэтым горадзе? Вы таксама лічбы?
Без нас лічбам цяжка жыць. Мы ў іх быццам бы сувязныя.
Не, мы матэматычныя знакі.


А дзе ў вас жывуць Пяцёркі?
Іх у нас цэлы мікрараён Пяцёркаўшчына. Але трапіць да іх можна толькі з дазволу цара Трыльёна.







Скажы мне, о вялікі Чалавек, ці верыш ты ў магутнасць майго царства?

Без царства Лічбаў не можа пражыць ніводзін чалавек.

Наша царства ўсемагутнае. Мае лічбы працуюць ва ўсім свеце. Без іх проста немагчыма жыць. Без іх вы не знойдзеце патрэбную кватэру, дом сябра. Без лічбаў вас не зразумеюць у магазіне, кінатэатры... Мы ўсё можам!

А скажыце, шаноўны дзядуля Трыльён, колькі зорак на небе?.. Колькі злыдняў жыве на Зямлі?.. Колькі зараз у школьных сшытках кляксаў?

Не ведаю...

Скажыце, дзядуля Трыльён, ці не пасялялася ў вашым горадзе школьная Пяцёрка з майго горада Дзіўнагорска?

Пасялялася. Яна расказвала, што не вынесла жыцця ў брудным сшытку і ўцякла.

Мы шукаем тую Пяцёрку.

Э-э-э, трыльёншчык-мільёншчык, мы павінны знайсці Янкаву Пяцёрку. Дапамажыце нам.










## 7 РАЗДЗЕЛ

Клякса-Вакса выратоўвае Пяцёрку і сваіх сяброў ад Змея-Хапуна
























Земляная Жаба, Шэрая Мышка і Клякса-Вакса палезлі ў падзямелле Змея-Хапуна.












# 7 РАЗДЗЕЛ

## Клякса-Вакса выратоўвае Пяцёрку і сваіх сяброў ад Змея-Хапуна



ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН НЕХТА ЛЁГКА ТОРГНУЎ ЗА ВЯРОЎКУ ТРЫ РАЗЫ.









ВЕДАЕШ, ЯНАЧКА, ЯК МНЕ ГОРКА БЫЛО Ў ЗМЕЯ. ЁН АДДАЎ МЯНЕ СВАІМ БРЫДКІМ ДЗЕЦЯМ. ЯНЫ АДЗЯВАЛІ МЯНЕ Ў РОЗНЫЯ АПРАТКІ, ГУЛЯЛІ СА МНОЙ, ЯК З ЛЯЛЬКАЙ. ЗМЕЯНЯТЫ БІЛІ МЯНЕ, КУСАЛІ... ЯНЫ ХОЦЬ І ВЯЛІКІЯ, А НІ ЧЫТАЦЬ, НІ ПІСАЦЬ НЕ ЎМЕЮЦЬ. ЗМЕЙ ІХ ВУЧЫЦЬ ТОЛЬКІ СВАЙМУ РАМЯСТВУ.



ТЫМ ЧАСАМ ЗА ВЯРОЎКУ ЗНОЎ ТРЫ РАЗЫ ТОРГНУЛІ.









РАПТАМ З ПАДЗЯМЕЛЛЯ ТРЫ РАЗЫ СЛАБА ПАКРАТАЛІ ЗА ВЯРОЎКУ.














...і бачым: пасярод змейства Хапуна стаіць сярэбраная клетка, а ў ёй — Пацёрка.

Пацёрачка, мы прыйшлі цябе выратаваць.

Не можа быць!.. Але як мне выйсці адсюль?.. Сярэбраны ключ ад клеткі Змей-Хапун носіць на поясе, а цяпер ён спіць — адпачывае.


Ну, тут Клякса-Вакса і павегла ў яго палац.

Мы адкрылі клетку — і вось Пяцёрачка тут.

Далей я раскажу. Толькі мы адправілі наверх Пяцёрку і Шэрую Мышку, як прачнуўся Змей-Хапун.

Хто ўзяў мой ключ ?! Дзе той шкоднік-нягоднік.

Ратуйся!.. Я затрымаю Змея!..

Я твой ключ узяла! Я забрала Пяцёрку!..

Ты хто такі, шкоднік-нягоднік?

Ты сам шкоднік-нягоднік!.. Вось табе!..

Клякса-Вакса кінулася ў вочы Змея-Хапуна і заліла іх.

Авой, нічога не бачу!.. Я слепну!.. Ратуйце!..

Упаў і пачаў качацца... Тады я і шмарганула за вяроўку, каб цягнулі...

Шкада было назаўжды развітвацца са смешнай-пацешнай Кляксай-Ваксай...

Сябры мае, Клякса-Вакса перамагла Змея-Хапуна... Ён больш ніколі не зможа разносіць па зямлі гора і бяду. А цяпер я ўсіх вас запрашаю да сябе ў госці.

Праз нейкі час Янка і яго сябры прыйшлі ў Дзіўнагорск. О дзіва! Па горадзе ўжо хадзіў з мехам падарункаў Дзед Мароз. Пачалася цудоўная карнавальная ноч.



Быў і я на тым гулянні. Напітак „Бураціна" піў. Цукеркамі „Чырвоная шапачка" частаваўся. У роце „Птушынае малако" пабывала. А па барадзе марожанае „Пінгвін" цякло. Усю ноч скакалі-спявалі. Сярод нас была маска Кляксы-Ваксы.





Учредитель — фирма «Красико»



Адрес учредителя: 220114, Минск, пр-т Ф. Скорины, 155, кор. 2.

Подписано в печать с оригинал-макета 28.01.94. Формат 60×90 1/8. Печать офсетная. Бумага офсетная № 1. Печ. л. 3,0. Тираж 50 000 экз. Заказ № 85.
Адрес редакции: 220114, Минск, пр-т Ф. Скорины, 155, кор. 2.

Отпечатано в типографии издательства «Белорусский Дом печати».
Адрес типографии: 220013, Минск, пр-т Ф. Скорины, 79.

